# Самапомач Гаспадаў

Двутыднёвы беларускі папулярна-гаспадарскі часапіс.

№ 17 (70).
Год VI.
Вільня.
25.X.1937 г.

РЭДАКЦЫЯ:
Вільня, Полацкая
вул. № 9—4.
Рэдактар прыймае
ад гадз. 9 да 11 ран.

АДМІНІСТРАЦЫЯ
Вільня, Завальная
№ 1.


# Два словы аб палітыцы

Аб ведамым чэскім народным палітыку біскупе Стояне расказваюць гэтак: калі Стоян, стаўшыся біскупам і паслом, прыехаў у сваю родную вёску, дык ягоныя суседзі й равесьнікі запыталіся ў яго: „скажы нам, што такое палітыка?“ Замест адказу, Стоян палажыў сваю руку на стол і да таго, хто пытаўся, кажа: „удар па маей руцэ“. Той без намыслу замахнуўся і — моцна стукнуў; але не па руцэ — бо яе Стоян у час прыняў — а па голым стале. Усе ў сьмех. А Стоян тады й кажа: „палітыка гэта штука прадбачыць, адгадаць, што можа стацца ў бліжэйшай ці далейшай будучыні. Палітыка можа быць добрай, але можа быць і благой. Я думаў, што можа стацца з маей рукой, таму ў час яе выбраў спад рукі, якая магла яе ўдарыць; гета палітыка добрая. Але той, хто мяне стараўся ўдарыць, мала — а можа й зусім ня думаў, што можа яго спаткаць: таму ён сам сябе пабіў — ягоная палітыка была благой“...

Гэтулькі аб „палітыцы“ ў агульным значэньні гэтага слова.

„Самапомач“ палітыкай, як такой, не займаецца. Але будучы часапісам народна-гаспадарскім, „Самапомач“ мае ў сваей праграме палітыку зямельную (аграрную) і з гэтага гледзішча павінна разглядаць і ацэніваць усё тое, што кругом нас дзеіцца. Гэта ў меру магчымасьцяў мы й робім.

Восень кожнага году гэта пара ажыўленай палітычнай дзейнасьці. Адчуваецца гэта ў гарадох, адчуваецца й на сяле. Асабліва сёлета, па доўгіх гадох палітычнай бяздзейнасьці, будзіцца наша вёска з прасоньня і шукае чагосьці лепшага. Вёску нашу цікавяць падзеі міжнародныя і „свае“, мясцовыя. „Чысткі“ ў Саветах, войны ў Гішпаніі і ў Кітаі, рэформы Гітлера, Муссоліні'га — з аднаго боку, проціўжыдоўскія разрухі, розныя „сялянскія“ забастоўкі, маніфэстацыі (Рацлавіцы), суды, арганізаваньне й нагонка ОЗН-у, арганізаваньне „дэмократычных клюбаў“, „людовых“ блёкаў і г. д. з другога — ўсё гэта рэчы, якія ня могуць не адбіцца й на жыцьці селяніна беларускага. Тлумачэньне ўсіх гэтых зьявішчаў з натуры рэчы належыць да часапісаў палітычных, якіх, нажаль, Беларусы ў Польшчы, пасьля спыненьня „Беларускай Крыніцы“, ня маюць. Мы палітыкай займацца ня будзем; зазначым толькі, што нястача роднай беларускай палітычнай прэсы ёсьць аднэй з прычын шкоднага послуху нашай вёскі на падшэпты „лапцеплётнай пошты“ і розных безадказных агітатараў. Нашым абавязкам аднак ёсьць падаць тут спосаб ацэньваньня розных палітычных думак з пункту гледжаньня гаспадарска-земляробскага.

Ніхто сабе ня вораг, а кажуць, што нават і „сьвятыя трымаюць рукі да сябе“. Тымбольш людзі з катэгорыі палітыкаў-адумыслоўцаў. Дзеля гэтага палітыка таму дае карысьць, для каго яна прыдумана, а не таму, хто ей больш ці менш паддаецца. Скрозь і ўсюды, а перад усім у справах зямельных. Бо калі іншыя запасы народнай маемасьці можна стала павялічываць, дык запасы зямлі маюць тую свомасьць, што іх бязмежна павялічываць ня можна; яны агранічаны. А гэта й ёсьць прычынай, чаму зямельнае пытаньне ў палітыцы бывае для гаспадара-земляроба найбольш балючым,

Другой важнай справай для беларускага сялянства ёсьць справа роднае беларускае асьветы. Толькі праз родную асьвету вядзе шлях да лепшае будучыні. Беларускі лемантар для беларускага дзіцяці ў школе і дома, беларуская кніжка й газэта ў беларускай хаце, беларускія арганізацыі для беларускага насельніцтва: гэта шлях да жыцьця, якое можна было-б назваць жыцьцём людзкім.

Дзеля ўсяго гэтага карысьнасьць розных палітычных праграмаў для беларускага сялянства трэба ацэніваць гэтымі „двума славамі аб палітыцы“: як яны вырашаюць зямельную ў нас справу і як адносяцца да свабоднага разьвіцьця беларускай нацыянальнай культуры.

# „Самапомач“ за дарма!

*Хочучы памагчы нашай беларускай перадусім моладзі, якая жадала-б паглыбіць свае пазнаньні з земляробскай гаспадаркі і ня мае на гэта адпаведнай літаратуры, рэдакцыя „Самапомачы“ пастанавіла ДАРМА раздаць частку гадавікоў „Самапомачы“ за мінулыя гады паміж тых сваіх сталых падпішчыкаў, якія прышлюць нам адну залатоўку на пакрыцьцё коштаў перасылкі.*

*А знача, хто да 1.XII сёл. аплаціць падпіску за сёлетні 1937 год і прышле акрамя таго залатоўку на перасылку, той акрамя сёлетняга часапісу дарма атрымае йшчэ два гадавікі „Самапомачы“ за мінулыя гады. Да рассылкі маем гадавікі за гады: 1933, 1934, 1935 і 1936. Пры перасылцы грошаў трэба паказаць з якіх двух гадоў хто хоча атрымаць гадавікі. Хто цэлую сёлетнюю падпіску аплаціў, а хоча атрымаць гадавікі з мінулых гадоў, той павінен прыслаць толькі адну залатоўку, з азначэньнем „на гадавікі“.*

*Дык карыстайце з рэдкай аказіі, якая больш не паўторыцца. Паведамце аб гэтым сваіх суседзяў і знаёмых. Ведайце, што кожны гадавік гэта самастойная гаспадарская чытанка: знойдзеце там цікавыя і карысныя рады аб гаспадарцы палявой, сенажатнай, гадаўлянай, малачарскай, вэтэрынарнай помачы, аб хатняй гаспадарцы, жаноцкай і г. д. — Карыстайце!*

*Выдавецтва «Самапомачы».*
*Вільня, Завальная 1.*

## № 16 „Самапомачы“ сконфіскаваны.

Папэрэдні нумар (16-ты) нашага часапісу Віленскае Гарадзкое Старства сканфіскавала дня 13 г. м-ца за ўступны артыкул „Палесьсе.“ Аб конфіскаце мы былі паведамлены толькі тады, калі часапіс ужо быў разасланы сваім падпішчыкам. Друкаваньне новага накладу гэтага самага нумару часапісу пры гэткіх умовах было пенад нашы скромныя фінансавыя сілы. Перапрашаем за гэта нашых Паважаных Чытачоў і Падпішчыкаў. Гэты нумар выдаём як нумар чародны.

*Рэдакцыя і Адміністрацыя „Самапомачы.“*

## ГАСПАДАРСКАЯ ХРОНІКА

**Канец конвэрсыйных умоваў.** Устаноўлены ў 1933 г. конвэрсыйны Камітэт дзеля адсрочкі сплаты даўгоў кончыў ужо ўстаноўлены срок свае дзейнасьці і 30 верасьня сёл. быў разьвязаны. Агулам разглядзіў ён 419.013 справаў на суму 500 мільёнаў зл.

**Цэнтраля** гаспадарчая коопэратываў земляробска - гандлёвых сарганізавалася 19 г. м. у Варшаве. Новая арганізацыя мае ўзяць на сябе гандлёвыя функцыі „Państwowych Zakładów Przemysłowo zbożowych – PZPZ.“ Сябрамі новай цэнтралі акрамя PZPZ могуць быць усе коопэратывы земляробска-гандлёвыя з цэнтральных і ўсходніх ваяводзтваў і належаць да „Związku Spółdz. roln. i zarob. gosp.“

**З Пазнаня на «Крэсы.»** „Зямля і Воля“ (№ 40) паведамляе, што „Bank Gospodarstwa Krajowego“ раздаў за пасярэдніцтвам коопэрацыі 100 000 злотаў гэтак званага „перасяленскага“ крэдыту тым польскім купцам з Пазнаня, Быдгошча, Торуня і Грудзёндза, якія хочуць перасяліцца ў гарады на „Крэсах,“ каб там узбагачывацца з гандлю. У хуткім часе мае наступіць прызнаньне дальшых 100 тысяч злотаў на перасяленьне польскіх купцоў з захаду на ўсход (гэта знача да нас—р э д.). А наагул, як падаюць газэты, на перасяленьне пазнанцаў на ўсход прызначана сума 5 мільёнаў злотаў.“

**Фабрыка лянных і канапляных вырабаў у Новай-Вялейцы.** У першых днях кастрычніка урухомлена была ў Новай-Вялейцы (каля Вільні) фабрыка лянных і канапляных вырабаў, якая дагэтуль знаходзілася ў Бэзданах. Новае прымяшчэньне фабрыкі ў будынку даваеннай фабрыкі Поссэля дае магчымасьць развіцца ей у паважную ў нас гаспадарска-прамысловую пляцоўку. Тымбольш што сырэц (лён і каноплі) ёсьць так сказаць на месцы. Гандлёвы пункт новай пляцоўкі так-жа вельмі добры. Уласьнікам фабрыкі ёсьць Віленскае Льнярскае Т-ва.

## Kolki tracim, marnujučy čas?

*(Na Dzień Aščadnaści).*

Dzień 31 kastryčnika kožnaha hodu pa ůsim kulturnym śviecie śviatkujecca jak Dzień Aščadnaści. Na Aščadnaść składajecca ůmiełaje karystańnie hrašmi, zdaroůjem i časam. Nižej pieradrukoůvajem addzieł z ukrainskaje knižački M. Rastkoviča: „Як можемо прийти до добробуту.“ Apisanyja ů im fakty adnosiacca da žyćcia halickich ukraincaů. Ale nie biez značeńnia jany j dla čytača — Biełarusa. — Red.

Niaraz čytajem u hazetach, jak kulturnyja narody jak Niemcy ci Amerykancy navypieradki chočuć uva ůsim zavajavać śviet.

Dziejucca rečy, ab jakich dahetul nichto blizu j nia dumaů, a ů jakija daniadaůna nia možna było j pavieryć (vot choć-by pieralot na aeraplanie z Ameryki ů Eŭropu, raźvićcio radia i h. d.). Blizu štodzień možna čytać ab novych zdabyčach ludzkaha rozumu.

Tolki ů nas niejak mała što čuvać ab jakich-niebudź zdabytkach u jakimkolečy kirunku. Pryčynaj hetaha jość nia što inšaje, jak urodžanaje nam hultajstva i nieachvota da pracy.

Naš narod marnuje dzień u dzień vielmi šmat darahoha času, jakim tak daražać narody kulturnyja. Paprobujmo padličyć sabie, kolki heta času j na jakuju sumu pramarnuje ů hod naša siało.

Biarom siało, u jakim jość 300 haspadarak, 1.500 duš, z čaho pryblizna pałova, znača 800 čałaviek zdolnych da pracy. Jak kožny z ich zmarnuje ů dzień tolki **20 minut**, dyk usie razam jany zmarnujuć u dzień 266 hadzin. Rachujmo, što za hadzinu pracy treba za płacić tolki 20 hrašoů, dyk takoje siało stracića za dzień 53 zł. 20 hr., a za hod **19.418 zł.** Ale kožny zdolny da pracy čałaviek tracić značna bolš darahoha času.

Kali voźmiem daůžeznyja vosienskija i zimovyja viečary, u jakija ludzi na siale traciać što najmienš (biaručy siarednie ů cełym hodzie) 3 hadziny (pa adličeńni patrebnaha času na adpačynak i razryůki, kanieśnyja dla zdaroůja, čytańnia knižak, časapisaů), ci razam 584.000 hadzin pa 20 hrašoů, dyk ludzi ů adnym siale ů hod zmarnujuć **116.800 zł.**

Kali da hetaha daličyć, što ludzi z siołaů blizkich ad horadu dzień u dzień iduć u horad z kurami, jajkami, aharodninaj, małakom, masłam i h. d., dyk z takoha siała jość u horadzie što najmienš 50 čałaviek. Kožny z ich stracić u dzień što najmienš 3 hadziny, h zn. usie razam u dzień 30 zł., a za hod — dalšyja **10.950 zł.**

Da hetaha treba daličyć dni tarhovyja. Rachujem pa 1 dni ů tydzień, h. zn. 52 dni ů hod. Rachujmo, što z takoha siała jedzie na torh choć 100 ludziej, dzie jany traciać cely dzień. Rachujučy 8-mihadzinny dzień pracy, siało takoje tracić u dzień 41.600 hadzin, a na hrošy — **8.320 zł.** Złažemo ůsio heta razam:

# Што, як і калі рабіць?

*(Земляробская тэхніка).*

## Благая зямля.

Што шмат у нас благой зямлі, аб гэтым ніхто з здаровым розумам спрачацца ня будзе. Другая праўда, што й гэтай „благой“ зямлі быццам становіцца што раз менш, а людзём на вёсцы з кожным годам прыходзіцца жыць „гусьцей.“ Іншага, акрамя земляробства, у нас заняцьця няма і таму пад земляробства прыходзіцца выкарыстоўваць ня толькі ўсю зямлю сяк-так прыгодную, але так-жа й няпрыгодную, як сухавеі, балаты, тарфянішчы і г. п. Некаторыя з іх, напр. тарфянішчы й вільготныя латы, калі-б іх асушыць, дык маглі-б быць зусім ураджайнымі. Тое самае з грунтамі лішне сухімі — пяшчанымі сухавеямі, якія каб зрабіць ураджайнымі, трэба навязьці й перамяшаць з зямлёй цяжэйшай (глінай) і арганічнай (перагноем), стараючыся адначасна сухія мясцы наводніць. Часта аднак гэткае асушаньне і навязеньне даражэй каштуе, чым тая карысьць, якую з гэтак выпраўленага поля можна было-б мець.

Калі аднак земляроб ня мае іншай, лепшай глебы, змушаны бывае гаспадарыць і на тэй, якая ёсьць, хоць-бы яна да гэтага й ня была прыгоднай. На глебе лішне лёгкай сеецца жыта, садзіцца бульба. І калі лета ўдасца дажджыстае, дык сякога-такога ўраджаю можна дачакацца. У сухія гады ў такіх выпадках усё прападае. На грунтох замоклых, балоцістых, на тарфянішчах зьбіраецца крыха кіслага сена, часам штосьці засеецца і ў сухі год сёе тое часам родзіць, але ў сырым годзе ўсё прападае.

Гаспадараваньне на гэткіх грунтох гэта адна мука, бо земляроб у такіх варунках цалком зданы на ласку-няласку пагоды. Пры найбольшых стараньнях часта ўраджаю такога не хапае на пражыўленьне земляробавай сям'і. Аб разьвіцьці жывёлагадоўлі ў гэткіх варунках ня можа быць мовы.

Благіх грунтоў ёсьць даволі ўсюды. Але на падставе даўгалетняй практыкі сьветлыя гаспадары дайшлі да пераканаўньня, што калі не аплаціцца грунты мэліёраваць, гэта знача вільготныя асушыць, а сухія — наводніць, дык лепш гэткія грунты выкарыстаць іншым спосабам, а ня выраблаць іх пад пасеў тых ці іншых расьлінаў. Грунты лішне вільготныя й балоцістыя адкрытымі равамі часта можна пераманіць у вельмі добрую сенажаць. А калі-б і гэта аказалася немагчымым, дык забалочаныя прасторы найлепш пераманіць у рыбныя ставы і гадаваць у іх перад усім карпаў. З аднаго гэктара ставу можна мець каля 200 і больш кілёграмаў карпа. З гэтага можна вырахаваць, як карысным можа быць рыбная гаспадарка, тым больш што грашовага ўкладу такая гаспадарка вымагае вельмі мала; галоўны тут уклад гэта земляныя работы, на якія людзей на нашых сёлах заўсяды хапае, абы толькі была ахвота.

Грунты лішне лёгкія гэта грунты ад прыроды лясныя. На даход з лесу, праўда, трэба даўжэй чакаць, але калі „благая“ зямля састаўляе толькі частку грунтоў усяе гаспадаркі, дык засаджэньне сосснай малога гаю ня ёсьць каштоўным і праз колькі год дае ўжо карысьці значна больш, чым з пасеву збожа. У шмат мясцох на няпрыдатнай для земляробскіх расьлін глебе садзяць кошыкарскую лазу і на гэтым таксама добра выходзяць.

З усяго гэтага відаць, што для сьветлага чалавека няма „благіх“ глебаў, а ёсьць толькі глебы больш ці менш ці наагул няпрыдатныя пад земляробскую культуру: іх трэба выкарыстываць інакш. Аб спосабах-жа выкарыстываньня такіх глебаў можна даведацца з гаспадарскіх кніжак і газэт і таму іх трэба стала й пільна чытаць.

**З. К.**



| | |
|---|---|
| Zimovyja vosienskija viečary j marnavańnie štodzień čaści rabočaha dnia | 116.800 zł. |
| Chadžeńnie ŭ miesta z małakom, aharodninaj i h. d. | 10.950 „ |
| Ježdžańnie na kirmašy . . | 8.320 „ |
| Razam . . . . . . . . | 136.070 zł. |

Hetulki ŭ hod tracić siało*) dziela taho tolki, što marnuje darahi čas.

Nia ŭličany tut čas zmarnavany na sudavyja pracesy.

Nie adzin sielanin skaža na heta: „Čaho vy ad nas chočacie? Što my za toje vinavaty, što musimo pradać u horadzie małako, jajki, syr, masła, aharodninu, płady, što musim kupić usiakija rečy patrebnyja ŭ chacie, što musim pradać abo kupić na kirmašy jakuju žyviołu, što musim tracić čas chodziačy ŭ haradzkija banki za pazyčkami? Što my vinavaty za toje, što ŭvosieni abo ŭzimku jak tolki źmierkniecca, dyk i nia majem čaho rabić?“

Radu na heta daje kooperacyja i jana nas vuča aščadnaści. Kooperacyja kaža: „jak pazakładajecie ŭ siabie adpaviednyja kooperatyvy: kooperatyvu spažyvieckuju, kredytovuju, małačarskuju, kooperatyvu dla zbytu žyvioły, śviniej, kurej, aharodniny, sadovych pładoŭ, kooperatyŭnyja tartaki i h. d., tady nia budziecie patrabavać tracić taho darahoha času na chadžeńnie ŭ horad.

„Nu, dobra — skažacie — my zhadžajemsia z hetym, my zaaščadzim hety čas, kali nia pojdziem u miesta, ale što my z hetaha budziem mieć, kali my nia majem jak inakš vykarystać toj čas i budziem siadzieć biez raboty ŭ chacie.“

I na heta kooperacyja maje radu. Jana kaža: «załažecie ŭ siabie vytvorčuju kooperatyvu (jakuju, heta zaležyć ad taho, što ŭ danym miescy jość da pierarablańnia (npr. hlina na cehłu, lon—na pałatno, hryby i jahady—na roznyja marynaty, sadovyja płady—na sušeńnie, marmeladu, soki i h. d. — *uvaha tłum*).

Čamu sialanie našy nia majuć svaich miasarniaŭ, piakarniaŭ, harbarniaŭ? Taksama patrebny sialanskija tkackija varstaty dziela vyrabu pałatna i sukna, vyrabaŭ z žaleza i dreva, bo fabryčny vyrab ciapier vielmi darahi (nia tak, jak byvała kaliś). Naahuł, usio toje, na što jość popyt siarod nas samych, možna vyrablać samomu.

Možacie hetak załažyć kooperatyvu košykarskuju, kooperatyvu dla vyrabu dyvanoŭ (kilimaŭ), zabavak i h.d.

Ciapier, dumaju, vy ŭžo razumiejecie, što heta značа „čas heta hrošy“ i jak možna niemarnavańniem, vykarystoŭvańniem času aščadžać.

*) u našych biełaruskich varunkach na hetkaje „siało“ złožycca siołaŭ chiba prynamśja piać-šeść — red.

## Дагляд канюшыны ўвосені.

Кожны гаспадар-земляроб ведае, што канюшына, а асабліва люцэрна прабуджаецца вясной вельмі рана. Патрэбна ёй тады ня толькі гатовая страва ў глебе: сама расьліна ў гэту пару павінна быць сытай. Гэткая толькі расьліна добра выходзіць з зімы і ўдачна перамагае ўсякіх шкоднікаў.

Якая-ж гэта страва канюшыне так патрэбная?

Каб адказаць на гэта пытаньне, зазначым, што зьбіраючы канюшыну з аднаго гэктара поля, зьбіраем з яго: 75 кілёграмаў азоту, 25 кілёграмаў фосфарнай кісьлі, 75 кілёграмаў поташу і 80 кілёграмаў вапны. Зьбіраючы штогод з поля гэтае мноства расьліннага корму і нічым яго не замяняючы, найлепшае поле можна было-б „замарыць голадам“. Каб гэтага ня сталася, трэба такое поле падкармліваць і калі ходзіць аб поле пад канюшынай, дык найлепшай парой да гэтага ёсьць восень.

З пералічаных гнойных сучастак, якія канюшына забірае з глебы, ня трэба ей варочаць толькі азоту, бо канюшына можа прыймаць азот проста з паветра. Што да рэшты, дык найчасьцей канюшына патрабуе фосфару, а на сярэдніх і асабліва лягчэйшых грунтох — так-жа поташу й вапны. Фосфар дадаецца пад канюшыну найлепш у форме томасшляку (Томасавай мукі), усё-роўна ці гэта на грунтох лёгкіх ці цяжэйшых. Томасшляк тым добры, што адразу не распускаецца, а знача — дзеіць памалу. Акрамя таго, побач з фосфарам, томасшляк мае ў сабе такжа й вапну, а знача зьяўляецца ўгнаеньнем падвойным.

Гнаеньне фосфарам патрэбна на тое, каб канюшына выгадавала моцнае карэньне і каб вытварыла запасныя завязі дзеля загушчэньня.

Асаблівае значэньне для канюшыны і наагул для расьліны мае поташ: ён п а д г а н я е жыватворчыя працэсы (асыміляцыю) расьліны.

Вырахавана, што на адзін гэктар засеенай канюшыны можна бяз рызыка даваць ад 3-х да 5-цёх мяшкоў (кожны па 100 кілё) томасшляку і ад 4-х да 6-цёх мяшкоў каініту (поташу). Абодва гэтыя гнаі мяшаюцца з сабой цесна прад самым высяваньнем і рассейваюцца п а в е р с е. Нічога больш з рассееным угнаеньнем рабіць ня трэба: дакончыць гэту справу дождж.

Практыка сьветлых гаспадароў нязьбітна паказала, што ўжываньне паказаных гнаёў пад канюшыну добра выплачваецца: ураджай канюшыны пасьля гэтага павялічваецца як што да колькасьці так і што да якасьці.

*С. Я—віч.*

## На што хварэе бульба ў скляпох.

Бульба зложаная на зіму ў скляпох ці ўсякіх ямах вельмі часта бывае ахвярай розных хваробаў. Адны з іх нападаюць на бульбу ўжо зложаную на зімаваньне, іншыя-ж прыносяць зародкі хваробы з поля і ў скляпох далей псуюцца. Залежна ад таго, якія варункі існаваньня знаходзіць такая хвароба ў склепе, псаваньне йдзе вальней ці хутчэй, болей ці меней. Найлепш зложаная да зімаваньня бульба да вясны траціць (псуецца) 10 прац., а калі яна кепска ўложана, дык часта псуецца і цалком. Сёлета па нашых беларускіх вёсках у шмат мясцох збожа сусім ня было і бульба зьяўляецца адзіным спосабам пракармленьня як сям'і, так і жывёлы. Дзеля гэтага варта бліжэй пазнаёміцца з тымі шкоднікамі, якія бульбу падчас перазімаваньня псуюць і з спосабамі, як супроць гэтых шкоднікаў бараніцца.

Найгалаўнейшым і найчасьцейшым шкоднікам бульбы зьяўляецца бульбяная плесьня (*Phytophtora infestans*). Праяўляецца яна йшчэ на полі на бульбяных лістох у форме цёмных плямаў, якія у мокрыя гады на сподняй часьці ліста маюць белую абводку (лямоўку). У цёплую сырую пагоду гэтыя плямы пашыраюцца вельмі хутка і нішчаць бульбоўнік часта на цэлым полі. А нясьведамыя людзі думаюць, што гэта бульба так скора „сьпее.“ З бульбоўніку перакідаецца хвароба на самую бульбу, на якой творыцць фіалетавыя плямы. Плямы гэтыя ўглыбляюцца ў самую бульбу, а пад плямай бульба ўсё глыбей і глыбей прыбірае колер брунатны. Пасьля гэтыя мясцы мякнуць і ўрэшце пераменьваюцца ў сьмярдзючую кашу. Усім гэтым аднак хвароба не агранічваецца і пе-



*Phytophtora infestans — бульбяная плесьня*

а) наверсе — так як ёсьць на цэлай бульбіне, б) унізе — разрэз хворай бульбіны.

Інж. Ад. Клімовіч.

## Асновы земляробскай эканомікі. 1[1])

### Кіраваньне гаспадаркай.

Дакладнай граніцы паміж арганізацыяй гаспадаркі і кіраваньнем ею няма. Бо ў найлепш сарганізаванай гаспадарцы з часам могуць паказацца нейкія недастаткі, нешта можа „аджыць свой век“ і тады сарганізаваную гаспадарку прыходзіцца арганізаваць нанова. Але агулам узята ўласьцівае кіраваньне тым розьніцца ад арганізаваньня, што гэта апошняе апрацоўвуе пляны разьлічаныя на час даўжэйшы і не для аднэй толькі гаспадаркі, тады як кіраваньне прадбача пытаньні, якія зьмяняюцца блізу з дня на дзень.

Што гэтыя пытаньні арганізаваньня прадбачаць?

Наўперад кожны гаспадар павінен стала цікавіцца пагодай і рынкам. Вартасьць аднаго й другога зразумелая. Да ўсяго гэтага найлепш служа радіо, якое падае як прадсказаньні пагоды, так і справаздачы з рынку. — Далей, добры гаспадар мусіць ведаць, што сапраўды мае. Дзеля гэтага ён павінен прынамся раз у год (робячы агульны перапіс ці інвэнтуру) перагледзіць усю сваю маемасьць, асабліва граніцы, стан мэліорацый, садовых і іншых дрэваў, будынкаў (спэцыяльна стрэхаў) і што толькі патрабуе направы, рабіць яе безадкладна.

Выкарыстаньне рабочай сілы мае вялікае значэньне ў гаспадарках з работнікамі наёмнымі. Выкарыстываньне здольнасьці паасобных работнікаў да пэўных работаў трэба мець заўсяды на ўвазе. Як найменш перакіданьня работнікаў ад аднае працы да другое ў працягу аднаго рабочага дня, асабліва, калі месца такой працы знаходзіцца далёка адно ад другога. Не пачынаць колькі працаў на раз — хіба толькі пачатай працы чамусьці ня можна далей вясьці, напр. з прычыны дожджу. Калі-ж ужо мова аб дожджы, дык трэба заўсяды мець у памяці якуюсь працу, каб заняць работніка „прагнанага“ дожджам.

раносіцца на суседнія бульбіны здаровыя. Абарона проці бульбяной плесьні гэта толькі ўважнае перабіраньне; ужо найменш падозраныя бульбіны трэба старанна адбіраць і нішчыць(!). Калі бульбяная плесьня нападзе бульбу закапаную ў яму, дык у гэткай яме падыймаецца тэмпэратура, а дзеля таго што кожная хворая на плесьню бульбіна сьціскаецца, дык і ўся яма правальваецца. Калі гэта станецца, дык неадкладна трэба тады яму адкапаць і ўсю бульбу перабраць.

З поля прыносіцца ў склеп так-жа бульбяная хвароба званая кругавой гнільлю, якую выклікае *Bacterium solanacearum*. Спатыкаецца часьцей ў гадох сухіх. Калі разрэзаць гэткую бульбу з кругавой гнільлю, дык блізка вонкавага абводу (блізка луські) пабачым рыжаваты або разьмякшы круг; пазьней ня толькі гэты круг, але і ўся бульба сусім зьмякчэе й пераменіцца ў кашу. Дзеля таго, што кругавую гніль можна пазнаць толькі разрэзаўшы, дык падозраную на кругавую гніль бульбу садзіць можна толькі разрэзаную.

Небясьпечнай ёсьць так-жа гэтак званая мокрая й сухая гніль бульбы. Мокрая гніль перамяняе нападзеныя мясцы бульбы ў кашавітую сьмярдзючую масу, якая пазьней пераменьваецца ў сухое парахно (сухая гніль). Прычыны гэтае гнілі бываюць розныя: бактэрыі, грыбкі (*fusariosa, verticillosa*) і розныя жыватворы. Гэта паказвае, што зародкі гэтае хваробы мусяць дастацца ў бульбу з-вонку. А дзеля таго што шалупінка бульбяная ёсьць натуральнай абаронай проціў шкоднікаў, дык яны і нападаюць перад усім бульбу або парэзаную, або хоць-бы толькі так ці гэтак зьверху параненую. Зложаную да зімаваньня бульбу можна бараніць проціў мокрай ці сухой гнілі толькі правільным укладаньнем: у памяшчэньні мусіць быць чыста, суха, зімна(але не марозна!), праветна і бяз сподняй вады.

Акрамя пералічаных хваробаў, небясьпечна для бульбы так-жа няправільнае ўкладаньне на зіму, ад чаго бульба або запарываецца, або мерзьне. Запарываецца бульба, калі няма адходу для пары, або калі не знаходзіць доступу да бульбы чыстае паветра. У найлепшым ад нак разе ня можна бульбу сыпаць у адзін пласт вышэйшы 1 з паловай (паўтара) мэтра.

Перахоўваная ў лішне цёплым склепе бульба, калі яе высадзіць на поле, адмаладжываецца — г. зн. замест пускаць расткі яна гадуе маладыя бульбіны. Акрамя цяпла ў склепе, такое адмаладжваньне здараецца йшчэ й тады, калі пасьля пасаджэньня доўга бывае сьцюдзена й ня бывае дожджу, а пасьля дождж пальне раптам. Зазелянеўшыя бульбіны (пад вясну) ўсходлівасьці ня трацяць: яны толькі ня прыгодны да яды, бо маюць у сабе шмат гаркіх алькалёідаў.

Ня менш ад цяпла шкодзіць бульбе й зімно (мароз). Калі бульба пасыпана адным толькі слоем, дык ужо $\frac{1}{2}$—$1^0$ Ц шкодзіць, калі патрывае даўжэй. Затое на кучы бульба вытрывае лёгка $1-2^0$ Ц ніжэй нуля, бо ўсподзе цяпліня заўсяды бывае вышэйшая на $2-3^0$. Бульбіны крыху толькі прыхопленыя маразам можна сказаць што нічым ня розьняцца з-верху ад бульбін зусім здаровых; але яны ўжо страцілі ўсходлівасьць. Таму калі мароз раптам бульбу „прыхопіць," дык да саджэньня ня можна ўжываць ня толькі бульбіны з-верху відавочна маразам сапсутыя, але й тыя бульбіны, якія знаходзяцца пад бульбінамі змарожанымі.

# Гнаеньне саду.

Каб утрымаць ураджайнасьць грунтоў абсейваных збожам ці ін шымі гаспадарскімі расьлінамі, земляроб гэтыя глебы гноіць. Без гнаеньня нашыя глебы ня родзяць. І чалавек да гэтага ўжо прывык. Толькі ад саду чамусьці вымагае, каб у ём расьлі плады без гнаеньня ды каб яшчэ акрамя таго паміж дрэвамі расла ў ём і трава. А як гэта ня станецца, дык гаспадар такі гатоў цьвярдзіць сабе і ўсім, што саду садзіць ня варта.

Ня можна казаць, што гэтак думаюць усе, але ёсьць і такія, што хацелі-б мець штосьці проста з нічога. А тымчасам з парожнага не нальеш й Салямон... Таму гнаіць сад трэба.

Наўперад зямлю ў садзе трэба ўтрымоўваць чыста і пульхна, як гэтак званы чорны папар. Цяпер увосені трэба й сад глыбака пераараць, асьцярожна, каб нарогам не параніць пнёў, чаго асабліва ня любяць такія дрэвы як сьліва, вішня. Трава ў садзе гэта злодзей. Карэньне травы зьбітыя ў вайлак не дапускаюць да карэньня дрэваў ані паветра ані вады. І здараецца, што калі ў сухую пагоду пойдзе доўга чаканы дождж, дык яго высмакча толькі трава, а да карэньня дрэва нічога з гэтай вады ня дойдзе.

Самага аднак толькі чорнага папару яшчэ мала: садовыя дрэвы трэба гнаіць, г. зн. дадаваць азот, фосфар і паташ, а сьлівы, вішні, чарэшні патрабуюць акрамя таго йшчэ й вапны. Калі гаспадар мае даволі гною хляўнога, дык ён можа быць тут вельмі карысным А як гэтага гною няма, дык трэба выручацца гнаямі штучнымі. Ведаць пры гэтым трэба, што карэньне дрэва адходзяць у бакі далей, чым галіны ягонае кароны. Пры гэтым самыя дробныя (валасковыя) карэньчыкі, званыя ротам усякай расьліны

Хто мае ў сябе заведзены севазварот, той ня звольнены йшчэ ад абавязку састаўляньня штогодняга пляну засеваў. У зьвязку з плянам засеваў знаходзіцца аблічаньне ў час патрэбнага насеньня і гнаёў (штучных).

Плянаваньне працы ня можна агранічыць да аднаго толькі сэзону; плян трэба мець на цэлы год. Кожная праца хай будзе выканана ў сваім часе. І хоць пры найлепшым плянаваньні часта выкананьне працы спазьняецца, то аднак гэта спазьненьне ў такім выпадку заўсяды бывае меншым, чымся ў таго, хто пляну наагул сабе ня ставіць.

Асаблівае значэньне мае падзел працы ў рабочы час, калі ўсе работы сьпіраюцца на раз. Мсьціцца тут вясьняная абмылка, калі сенажаці доўга спасываюцца жывёлай. Гэткія сенажаці пасьля позна не адрастаць і ўцягіваюць сенакос у пару, калі на работніка ўжо чакае жыта, пшаніца, ячмень. Сенакос урэзываецца ў жніво і адно з двух мусіць з гэтага цярпець: або пасыплецца збожа, або замокне сена, або — станецца адно й другое. Мімаходам зазначыць толькі трэба, што сена поўнавартаснае можа быць толькі з такой травы, якая скошана не пазьней, як у пару цьвету. Сена з пазьнейшага пакосу гэта ўжо ня сена, а звычайная салома.

Жывёлагадоўля ў гаспадарцы гэта ўжо поступ, але й вымагае яна больш прыгатаваньня чым прадукцыя расьлінная. Наўперад трэба ўмець дакладна аблічыць увосені ўсе запасы пашы. Другая рэч, гэта вядзеньне гэтак званых гадаўляных рэестраў. Гэта знача ў асобнай кніжцы, сшытку ці календары запісываць трэба месяц і дзень пакрыцьця, цяленьня (качэньня, парашэньня, жарабеньня) жывёлы, а так-жа па кім гэта жывёла паходзіць.

У гаспадарках, дзе ёсьць прынамсі колькі кароў, трэба так ўпарадкаваць пару іхняга цяленьня, каб малако было ў гаспадарцы праз цэлы год. Калі-ж гаспадарка настаўлена на выраб малака на продаж, дык просты розум кажа, каб каровы цяліліся ў пару, калі гэта малако найдаражэйшае, г. зн. увосень і ўзімку. Гэта самае меркаваньне загадвае рупіцца аб тым, каб малочныя каровы мелі даста-

якімі яна прыймае з глебы ўсякую спажыву, знаходзяцца ня пры пні, але на самым канцы караня. Дзеля гэтага гнаіць дрэвы трэба ня пры пні, але кругом яго на пэўнай адлежнасьці, аж куды сягае каро на. Азот можна дадаваць у форме азотняка, які ёсьць бадай найтанейшы. Даецца ён на вясну, калі дрэва прачынаецца з зімовага сну й пачынае расьці. Увосені азоту даваць ня можна, бо ён мог-бы тады гнаць дрэва ў рост да самых маразоў і дрэва магло-б ад гэтага пасьля лёгка зьмерзнуць. На гэктар саду даецца 200—300 кілёграмаў азотняку.*) Глебы на азот багацейшыя гэткага ўгнаеньня не патрабуюць. Зазначыць пры гэтым трэба, што плады з дрэваў азотам лішне перагноеных бываюць вельмі нятрывалкімі. Дык асьцярожна!

Фосфар пад пладовыя дрэвы можна даваць у кожную пару, як вясной, так і ўвосені. Пладовыя дрэвы вымагаюць яго менш, на гэктар 150—200 кілёграмаў (на 100 кв. м. 1 з палавінай — 2 кілёгр.). Калі фосфар дадаецца ў форме супэрфосфату, які вельмі лёгка й хутка распускаецца, дык найлепш не даваць яго ўсяго за раз, а цэлую порцыю падзяліць на 2 ці нават на 3 часьці й гэтак падаваць.

Усе пладовыя дрэвы патрабуюць шмат поташу, каторы мае ўплыў на харошы выгляд (колер) плоду, на ягоны смак і ўрэшце на добрае перахаваньне. Дзеля таго на гэктар саду даецца аж 300 кілёграмаў 20 прац. паташавай солі або двойчы гэтулькі, знача 600 кілёграмаў каініту. Гнаіць поташам можна як вясной, так і ўвосені, асабліва, калі да гнаеньня ўжываецца каініт.

Правільна вырабляючы глебу ў садзе і не „забываючыся“ яе гнаіць, можна штогод мець добры ўраджай і чысты даход з кожнага саду. Ня можна толькі вечна з саду браць, трэба яму сёе тое й даць.

*) На 100 кв. м. — 2—3 кілёграмы.

# Можна ці ня можна пасьвіць увосені на сенажаці?

Згары трэба сказаць, што аднаго агульнага адказу на гэта пытаньне даць ня можна. Можна толькі пералічыць, якія з такой пашы могуць быць карысьці і якія шкоды. Аб тым жа, ці пасьвіць, ці ня пасьвіць, можна рашыць толькі тады, калі прыблізна ведама, ці пераважаць будзе карысьць ці шкода.

Што прамаўляе за выпасваньнем сенажаці?

Наўперад мамэнт „гаспадарскі“: усё, што ня можна, ці што не аплаціцца касіць або жаць, трэба спасьвіць. У праціўным выпадку на паросшай сенажаці вытвараецца з гніючай на месцы травы непрапускны „вайлак“, у якім гнезьдзяцца розныя шкодныя для траваў плесьні. У абодвух гэтых выпадках была мова аб выпасываньні сенажаці ў раньнюю й позную восень.

Акрамя гэтага, *у пэўных выпадках,* выпасываць сенажаці можна й у іншую пару, напр. раньняй вясной або ўлетку паміж галоўным сенакосам і атавай. Галоўным заданьнем выпасываньня сенажаці ў гэту пару ёсьць не дапусьціць да высяменіваньня рознага пустазельля, якога асабліва на горшых сенажацях бывае поўна і якое дасьпявае раней травы карыснай. Праўда, жывёла не сьпяшаецца есьці самае пустазельле, пакуль мае даволі травы салодкай. Але і ў гэтым выпадку жывёла прынамся вытоптывае пустазельле і яно, пакалечанае, замест цьвісьці, гіне. Ва ўсякім з апісаных выпадкаў можна пасьвіць па сенажаці толькі тады, калі яна не размоклая і капыты жывёлы не правальваюцца скрозь суцэльнае сенажатнае дзярно. Гэта канешны варунак.

Проціў пасьбы на сенажацях, акрамя ўспомненага растоптываньня сенажатнага дзярна, прамаўляе так-жа засьмечваньне сенажаці гноем, у якім найчасьцей поўна бывае неператраўленых зярнят рознага пустазельля, якое гэткім парадкам засейваецца па ўсей сенажаці і яе абясцэньвае.

Другой важнай, ящчэ хіба важнейшай чым папярэдняя, небясьпекай з спасываньня сенажацяў ёсьць пасьба **позная**. Практыка сьветлых гаспадароў-земляробаў нядвузначна паказала, што да голага спашчаная ў позную восень сенажаць не пасьпявае на зіму набраць даволі запаснога корму і ўзімку калі не вымярзае зусім, дык вельмі аслабляецца і на вясну лёгка паддаецца рознаму пустазельлю. А гэта ўжо канец і найлепшай нават сенажаці. Дзеля таго ня можна да познай восені і да голага выпасываць сенажаці, бо гэта пагражае ёй загубай.

Урэшце для тых, хто ўмее гаспадарыць „з алаўком у руках“, г. зн. хто ўмее рахаваць і мае ў гэтым ужо практыку, а галоўнае, хто можа мець на зварот колькі дзесяткоў залатовак, той хай на невялікім хоць, але дакладна вымераным куску свае сенажаці выпрабуе, як аплачваецца ў нашых варунках гнаеньне сенажаці штучнымі гнаямі, у прапорцыі на гэктар: каля 150 кілёграмаў азотняку і — (асабліва на сенажацях тарфяных)— каля 600 клгр. каініту. Заграні́чныя гаспадары гэткага гнаеньня нават пры позным спасываньні ніколі не прапускаюць і заўсяды на гэтым добра выходзяць.

*А. К.*

## Два гады ўжо выходзяць „Wiadomości Białoruskie,“

якія стала інфармуюць польскую прэсу і ўсе найвышэйшыя ўстановы ў Польшчы аб беларускім жыцьці, аб нашай долі і нядолі. Акрамя падзеяў агульна беларускіх, „Wiad. Biel.“ зьмяшчаюць і праверaныя матарыялы з жыцьця нашай вёскі. Дык пішэце ў рэд. „Wiad. Białoruskich“ (Вільня, Завальная 1) карэспандэнцыі аб цікавых здарэньнях з беларускага жыцьця ў Вашай ваколіцы..Пісаць можна пабеларуску.

так малакагоннага корму. Аб тым, што кожны жывёлагадоўца павінен быць абзнаёмлены з найэлемэнтарнейшымі асновамі рацыянальнага кармленьня жывёлы, тут ужо няма чаго і ўспамінаць.

Рупны гаспадар павінен стала цікавіцца, у якім стане знаходзяцца ягоныя запасы: ці не затухла ў сьвірне збожа, ці не запарылася або можа зьмерзла ў склепе бульба й варыва, ці ня выветрываецца раскапаная сьвінямі або курамі куча хляўнога гною або можа ён выпаласківаецца падцякаючай дажджавой ці якой іншай вадой.

Ня можна так жа забывацца аб патрэбе канешных запасаў, без каторых работа ў сэзоне магла-б раптам затрымацца.

Ня кожны можа адразу паверыць, як вялікае значэньне ў гаспадарцы мае агульны парадак. Пэўна-ж, сам сабой ён не паўстае, на гэта патрэбны час, патрэбна праца. Значная часьць працы, якая патрэбна на ўпарадкаваньне напр. вуліцы й панадворка аплачваецца вартасьцю кампосту з сабранага й адпаведна зложанага сьмяцьця. Што-ж датыча патрэбнага на гэта часу, дык менш яго трэба на зрабеньне парадкаў, чым калі-б трэба было шукаць рэчаў загубленых, не гаворачы ўжо аб тым, што рэч загубленая часта зусім ня знойдзецца, а прынамся можа знайсьціся ў стане больш ці менш папсаваным. Да парадку так-жа належа догляд усяе снасьці, як калёсы, сані, упраж, малатарня, сячкарня і г. д.

Урэшце справа грашавога абароту ў гаспадарцы. У прымітыўных варунках земляробскае гаспадаркі гэта справа бывае вельмі занядбанай. Людзі з грашыма абходзіцца ня ўмеюць. Таму гэтак шмат напр. было ў нас ліцытацыяў за пазычкі пабраныя ў сваім часе (1926—29 г.) з коопэратыўных касаў ашчаднасьці. Правільная гаспадарка грашмі вымагае састаўляньня ўсіх прадбачаных прыходаў і выдаткаў на адзін год наперад. Называецца гэта бюджэтаваньнем. Правільна ведзенае бюджэтаваньне бароніць гаспадарку ад усякіх „неспадзевак“ і дае ей роўны ход.

Гэта колькі найагульнейшых заўвагаў да справы кіраваньня земляробскай гаспадаркай.

*Kutok dla haspadyniaŭ*

## Vykarmlivańnie husiej.

Miesiacy — listapad — śniežań heta najlepšaja para vykarmlivańnia husiej, jakija j hadujucca pierad usim dziela miasa, šmalcu i pierja. Kab z pracy mieć najbolš karyści, treba ŭmieć vykarmlivać: tady tolki vykarmlivańnie pojdzie chutka j abyjdziecca tanna.

Samo vykarmlivańnie husiej nie patrabuje asablivych pryładaŭ. Najlepš heta rabić u zvyčajnym karycie, da jakoha adnak husi dostupu biez-pasiaredniaha nia majuć, bo jano adharodžana parkanam. Karyta staić za parkanam i husi, chočučy dastacca da stravy, pavinny prasuvać pamiž parkaninaŭ svaju hałavu. Hetkim paradkam paša nia niščycca a husi majuć jaje dosyć praz cełу čas.

Usio karmleńnie dzielicca na dva, a časam na try peryjady. U pieršym peryjadzie (u pieršuju paru) huś kormicca pasiečanaj morchvaj i inšaj akopninaj, z damieškaj votrubaŭ. Možna tak-ža davać husi paranuju bulbu z absypkaj, a paśla na hruba zmołataje (sašratavanaje)ziernie zboža. Pomnić pry hetym treba, kab huś padčas vykarmlivańnia mieła ŭ karytcy davoli čystaj vady, prynamsia dvojčy ŭ dzień źmianianaj. Patrebny kormnaj husi tak-ža žvir i taŭčony dzieraŭlany vuhal.

Pieršy peryjad tryvaje bolš-mienš tydzień. Druhi peryjad — karmleńnie zierniem zboža — tryvaje dva tydni, časam karaciej, zaležna ad taho, jak padyjmajecca vaha. Zamiest zbažovaha ziernia kormiać huś mučnymi klockami (5 cm. udoŭžki i 3 cm. uhrubki), jakija zapichajucca husi siłkom. Spačatku dajecca hetak pa 3, a paśla i pa 10 klocak na adno karmleńnie, aby tolki huś dobra traviła. Hety sposab adnak nie zaŭsiady davaŭ dobryja rezultaty, nie havoračy ŭžo ab tym, što žyvioła im niezasłužana mučycca.

Vielmi dobra apłačvajecca karmleńnie husiej mukoj haračyšnaj i jačmiennaj, jakoj na cełaje karmleńnie (dva tydni) adnej štuki vychodzić 6—7 kilohramaŭ.

Dobra vykormlenaja huś zaŭsiady lohka znojdzie achvotnaha pakupca, jaki zapłacić i dobryja hrošy.

*M. M.*

## Цэны ў Вільні

**Малочнае,** *15.Х.37 за 1 кілё.*

| | |
|---|---|
| Масла найлепшае, гурт | 3.40—3.50 |
| „ „ дэталь | —3.80 |
| Масла сталовае гурт . | 3.30—3.40 |
| „ „ дэталь | —3.70 |
| Сыр эмэнталь гурт. . . | —3.00 |
| „ „ „ дэталь | —3.60 |
| Сыр літоўскі гурт . . . | 2.15—2.60 |
| „ „ дэталь | 2.40—3.00 |
| Яйкі ў гурце за капу . | 5.10—6.00 |
| „ ў дэталю за штуку | 9—11 гр. |

# Што чуваць на сьвеце

## Нямеччына процiў Чэхаславаччыны.

У чэхаславацкім курорце Тэпліцэ-Шанов паліцыя, падчас разганяньня забароненай гітлераўскай дэмонстрацыі, патурбавала між іншым колькі паслоў - немцаў, якіх з выгляду ня знала, а якія на чале таўпы, хацелі ўварвацца ў паліцыйны камісарыят. У гэту справу ўмяшалася нямецкая прэса і вядзе цяпер процiў Чэхаславаччыны вельмі вострыя напады. Дзеецца гэта хіба не бяз ведама нямецкіх уладаў, бо надзор над граніцай цяпер вельмі абвастрыўся.

## Італія мобілізуецца.

Хоць італьянскі ўрад запярэчыў вестку аб тым, што ён быццам змобілізаваў новых 125 тысяч жаўнераў з 1909 і 1910 гадоў, то вестка гэта аднак далей трымаецца. Апошнім часам Італія выслала шмат войска ў афрыканскую Лібію, 15 тысяч паслала ў Гішпанію і 40 тысяч на востраў Сіцылію блізка крэпасьці Мальты. Усё гэта кажа спадзявацца, што Італія ўзноў снуе нейкія ваенныя пляны.

## Жудасныя дні ў Саветах.

„Чыстка“ ў Саветах апошнім часам адбываецца нябывалым дагэтуль тэмпам. Газэты падаюць, што бываюць дні,калі расстрэльваюць аж 65 чалавек.—На 12 сьнежня сёл. ў Саветах назначаны выбары ў „Верховный Совет“ (парлямант) згодна з апошняй „Сталінаўскай конституцыяй.“ Пры сучасных варунках савецкага жыцьця трудна спадзявацца, каб гэтыя выбары былі адбіцьцём сапраўдных настрояў тамашняга грамадзянства.

## Нэўтральнасьць Бэльгіі.

Бэльгія, як ведама, аб'явіла сябе дзяржавай нэўтральнай, г. зн. што на выпадак вайны яна ня стане ні па чыей старане. Адразу пасьля гэтай заявы Англія і Францыя паведамілі Бэльгію, што яны нэўтральнасьць ейную прызнаюць. Агнадай, 13.Х. зрабіла гэта й Нямеччына. У палітычных кругох кажуць, што Нямеччына хацела гэтым прыпадабацца Англіі, адарваць Францыю ад Саветаў і адказаць на пагрозу прэзыдэнта Рузвэльта.

## Вайна ў Кітаю.

У Кітаю далей грымяць гарматы і сыплецца з аэрапланаў алавяны дождж. Японцы прывозяць новыя сілы, але ня сьпяць і кітайцы. Япон'я стасуе і цяпер сваю папярэднюю тактыку ў Манджурыі: яна арганізуе на занятых землях гэтак званыя буферныя дзяржавы (у Манголіі), якімі кіруе праз купленых людзей кітайскай нацыянальнасьці. Двух такіх кандыдатаў, Саоко і маршал Ву-Пэі Фу аднак адновіліся ад прапанаванай ім работы процiў собскага народу.

## У Палестыне горача.

На арыштаваньне англіцкімі ўладамі арабскіх павадыроў, тайныя арабскія арганізацыі адклікнуліся вострым тэрорам як супроць улады, так і супроць жыдоў. Павадыр арабаў Вялікі Муфті Ерузаліму, які перш схаваўшыся сядзеў у мэчэце, праз некалькі дзён выйшаў з яго пераапрануўшыся за бедуіна і ўцёк у Сырыю.

## У Гішпаніі.

Наплыў італьянскіх і нямецкіх „дабравольцаў“ у паўстанскую армію ген. Франка на гэтулькі яе ўзмоцніў, што яна здабыла па доўгіх і цяжкіх прыгатаваньнях баскійскае места Гіхон. Гэтым паўночны фронт фактычна перастае існаваць. Усе сілы паўстанцаў і іхніх памацнікоў цяпер будуць скіраваны на Каталёнію і Мадрыт, якія моцна трымаецца ўжо больш году.

## Водгукі з Далёкага Усходу.

Нападам Японіі на Кітай зацікавіліся ўрады 9 х дзяржаваў, якія ў сваім часе падпісалі ўмову аб ненападаньні. Былі між імі і Японія і Італія. Іншыя дзяржавы, як Англія, Францыя бачаць у Далёкаўсходніх падзеях зламаньне падпісанай умовы і таму склікаюць нараду ўсіх учасьнікаў умовы ў Брукселю (Бэльгія) на дзень 30 кастрычніка. Японія, а за ей Італія й Нямеччына прачуваюць, чым можа для іх быць гэта нарада і таму на яе не сьпяшаюцца, выдумоўваючы на гэта розныя прычыны.

**Збожжа** *22.Х.37 за 100 клг.*

| | |
|---|---|
| Жыта . . . . . . . | 23.00—24.00 |
| Пшаніца . . . . . | 27.75—29.25 |
| Ячмень . . . . . . . | 22.00—23.50 |
| Авёс . . . . . . . | 19.50—20.50 |
| Грачыха . . . . . . . | 19.00—20.50 |
| Семя лянное Ь. 90% | 44.50—45.50 |
| Лён трапаны, Валож. | 1490—1540 |
| Лён трапаны, Гародзей | 1740—1780 |
| Лён трапаны Трабы . | 1470—1510 |
| Лён трапаны, Мёры | 1380—1420 |
| Лён часаны Гародзей . | 1980—2020 |

